ІНФАРМАЦЫЙНЫ БЮЛЕТЭНЬ

Кніга Ноша

№ 48
люты, 2018

ЗАСНАВАЛЬНІКІ: ГА"САЮЗ БЕЛАРУСКІХ ПІСЬМЕННІКАЎ", МГА"ЗБС"БАЦЬКАЎШЧЫНА"

## ■ АЎТОГРАФ

## Міхась ЗІЗЮК:

# «Пісаць цягнула з дзяцінства...»




**– Шаноўны Міхась Міхайлавіч, Вы жывяце і працуеце ў Навагрудку. Распавядзіце пра літаратурны працэс у першай сталіцы ВКЛ? На творы якіх аўтараў-землякоў вы параілі б звярнуць асаблівую ўвагу чытачам?**

– Я жыву і працую ў Навагрудку з 1993 года, але як пісьменнік стаўся значна пазней, недзе ў 2005–2007 годзе. Жыццё склалася так, што амаль дзесяць гадоў пасля заканчэння школы служыў у Расіі. Я ніколі не марыў стаць пісьменнікам, хоць пісаць цягнула з дзяцінства. Нават вярнуўшыся ў Беларусь, я не адразу прыйшоў да літаратуры. У мяне быў свой, часам няпросты, шлях да ўсведамлення беларускасці. Дзякаваць Богу, ён адбыўся. Што да сённяшняга дня Навагрудчыны літаратурнай, то горад мае ў складзе Саюза беларускіх пісьменнікаў таленавітую паэтку Святлану Абдулаеву і мяне. Шчыра кажучы, няшмат ведаю пра сучасных выхадцаў з Навагрудчыны. Магу ўзгадаць пісьменніка і літаратуразнаўцу Яўгена Лецку, паэта Змітра Арцюха, пэўны час жыла і працавала ў Навагрудку пісьменніца Таіса Супрановіч. У раённай газеце друкуюцца вершы некаторых мясцовых паэтаў. Сярод іх вызначыў бы шчырыя і таленавітыя вершы Марыі Быт. Цікавыя і змястоўныя матэрыялы друкуе дырэктар музея Адама Міцкевіча Мікалай Гайба. Ён – аўтар некалькіх кніг пра геніяльнага паэта, іх параіў бы прачытаць. Святлана Абдулаева і я ладзім імпрэзы з нагоды выдання сваіх кніг. Прэзентацыя маёй кнігі «Планктон» прайшла ў ліпені 2017 года ў актавай зале аграрнага каледжа. У лістападзе ў раённай бібліятэцы было арганізавана некалькі прэзентацый кнігі для дзяцей «Энерджы і дзеці з 5 “А”». А супрацоўнікі бібліятэкі зрабілі невялікі спектакль па матывах гэтай казкі. Таксама я выязджаў з выступамі ў Дзятлава, Карэлічы і Іўе. У лістападзе Святлана Абдулаева выдала новы зборнік паэзіі, але гэтым разам на рускай мове. Вечарына адбылася ў карцінай галерэі мастака Кастуся Качана. У снежні ў раённай бібліятэцы адбылася пасмяротная прэзентацыя зборніка вершаў таленавітага самародка з Навагрудчыны Самсона Пярловіча, аўтара дзвюх прыжыццёвых кніг. Лёс не шкадаваў Самсона Георгіевіча, ён прайшоў ГУЛАГ, але не скарыўся. Прэзентацыя адбылася дзякуючы найперш тытанічнай працы Святланы Абдулаевай, таксама і супрацоўнікаў бібліятэкі. Усім параіў бы прачытаць яго шчырыя і пранікнёныя вершы, звярнуць увагу на творчасць Святланы Абдулаевай. Але ж на першым месцы, канешне, творчасць славутага Адама Міцкевіча. Яго паэзія бессмяротная.

*(Працяг на стар. 7)*

### Даведка «Кніганошы»:

**Міхась Зізюк – паэт і празаік. Аўтар кніг «Пропавшая свадьба» (2007), «Зеленее рунь» (2011), «Храм его души» (2011), «Оракулы междуречья» (2013), «Янка, Шмурдзік, Бухматка ды іншыя» (2015), «Энерджы і дзеці з 5 “А”» (2017), «Планктон» (2017). Нарадзіўся ў 1967 годзе ў мястэчку Лучыцы на Гомельшчыне. Жыве ў Навагрудку.**

# ■ МАСТАЦКАЯ ЛІТАРАТУРА




**Шталенкова Ксенія. Губернскі дэтэктыў. Справа аб крывавых дукатах. – Мінск: Кнігазбор, 2017. – 216 с. – (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў «Кнігарня пісьменніка»; вып. 101).**

У сваім новым рамане Ксенія Шталенкова запрашае чытача ў чарговае падарожжа. Гэтым разам – у Менск XIX стагоддзя, каб разам з галоўнай гераіняй знайсці злачынцу.




**Мінкін Алег. Мяне тут не было...: паэзія і проза. Уклад. М. Скоблы. – Мінск: Кнігазбор, 2018. – 276 с. – (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў «Кнігарня пісьменніка»; вып. 102).**

Творчасць Алега Мінкіна прагучала яшчэ ў 1980-я: яго першая кніга паэзіі «Сурма» сталася адной з найважнейшых з'яваў тагачаснай беларускай літаратуры, вярнуўшы ў лірыку класічнасць радка, прыгажосць і таямнічасць вобразнасці, тонкую эмоцыю, засяроджаную на метафізічным перажыванні. Новая кніга віленскага беларуса Алега Мінкіна – збор найлепшых ягоных твораў у лірыцы, кароткай прозе і перакладах.




**Алексіевіч Святлана. Галасы Утопіі. Пер. на беларускую мову Валянцін Акудовіч, Барыс Пятровіч, Андрэй Хадановіч, Уладзімір Арлоў, Сяргей Дубавец. – Вільня: Логвінаў, 2017. – 1138 с.**

Дакументальна-мастацкая хроніка «Галасы Утопіі» – пяць кніг, у якіх «маленькі чалавек» сам апавядае пра свой лёс. Гэта ўласны жанр – шматгалосыя раманы-споведзі, у якіх з малых падзеяў складваецца вялікая гісторыя. Перад чытачом – апошняя аўтарская рэдакцыя цыкла ў найноўшым беларускім перакладзе. Пісьменніца паводле свайго творчага метаду дапрацавала хроніку: скасавала цэнзурныя праўкі, далучыла новыя эпізоды, а таксама старонкі з уласнага дзённіка. У цыкл увайшлі наступныя кнігі: «У вайны не жаночы твар», «Апошнія сведкі», «Цынкавыя хлопчыкі», «Чарнобыльская малітва» і «Час сэканд-хэнд». У 2015 годзе Святлана Алексіевіч атрымала Нобелеўскую ўзнагароду па літаратуры «за поліфанічную творчасць – помнік пакутам і мужнасці ў наш час».




**Някляеў Уладзімір. На ўсякім свеце: апавяданні і прыпавесці. – Мінск: Кнігазбор, 2018. – 224 с. – (Бібліятэчка часопіса «Дзеяслоў»; вып. 21).**

«Што б ні казалі, ні плялі, мы не ў зямлі, а на зямлі!» – напісаў Уладзімір Някляеў у адным з вершаў пра Беларусь і беларусаў. У ягоных творах увогуле як бы няма памерлых. Ні тых, хто перайшоў з гэтага свету ў іншы стагоддзі таму, ні тых, хто ўчора. Усе – жывыя. Не Ў зямлі, а НА зямлі, не Ў небе, а ПАД ім. І гэта не толькі дае чытачу адчуванне цэласнасці свету, але і дазваляе аўтару ствараць неверагодныя, фантастычныя – і ў той жа час надзіва рэальныя сюжэты, што і стала зместам кнігі «На ўсякім свеце».




**Казько Віктар. Казань пра ката, каторы смяяўся. – Мінск: Кнігазбор, 2018. – 292 с. – (Бібліятэчка часопіса «Дзеяслоў»; вып. 22).**

Віктар Казько адлюстроўвае пошукі чалавекам тых сілаў, што дапамогуць выстаяць у свеце, напоўненым трагічнымі падзеямі, і дадуць штуршок для руху наперад, да лепшага жыцця. Ён папярэджвае, што без беражлівага захавання спадчыны продкаў, чэрпання з яе адвечнай мудрасці не будзе будучыні ні ў народа, ні ў чалавецтва наогул.




**Тамковіч Аляксандр. Мазаіка жыцця. – Мінск: Медысонт, 2017. – 434 с.**

«Мазаіка жыцця» – кніга, якая складаецца з біяграфічных артыкулаў, зробленых у розныя часы і ў розным фармаце. Аб'яднала іх жаданне герояў дасягнуць у сваіх сферах пэўных вышыняў, іх працаздольнасць і непакорнасць «агульнай плыні». «Мазаіка жыцця» – незвычайная энцыклапедыя, бо зроблена не толькі з фактаў, але і з пачуццяў. Магчыма, нехта ўбачыць шурпатасці ў стылістыцы і лексіцы, але героі кнігі – жывыя людзі, да ўсяго неардынарныя, а таму часам непрычасанасць выказванняў найлепш перадае іх сутнасць, якая не ўкладаецца ў шаблоны, правільнасць ці гладкаць, а выбіваецца з агульнапрынятасці. У нейкім сэнсе «Мазаіка жыцця» – працяг тэмы «Найноўшай гісторыі ў асобах».




**Барадулін Рыгор. Дзённікі і запісы. Выпуск 4. 1983–1988. Укл., прадм. Н. Давыдзенка. – Мінск: Кнігазбор, 2017. – 380 с. [8] с.: іл. – (Бібліятэка Бацькаўшчыны. Людзі Беларусі: кн. 3).**

Чацвёрты выпуск «Дзённікаў і запісаў. 1983–1988» народнага паэта Беларусі Рыгора Барадуліна адметны запісамі пра яго ўдзел у працы XXXIX сесіі Генеральнай Асамблеі ААН у складзе дэлегацыі БССР і пра паездку ў далёкія і загадкавыя Індыю і Непал, а таксама не менш цікавыя – у Францыю, Балгарыю, Польшчу і пра больш звыклыя – у рэспублікі Савецкага Саюза і дарагія сэрцу родныя мясціны. Таксама ў гэтую кнігу, выдадзеную ў серыі «Бібліятэка Бацькаўшчыны. Людзі Беларусі», як і тры папярэднія, увайшлі вершы, раней не друкаваныя ў зборніках паэта, а таксама вясёлыя сяброўскія віншаванні, прысвячэнні і малюнкі.




**Лістота Ніна. Каханні: дваццаць рэальных гісторый. – Мінск: Кнігазбор, 2017. – 124 с. – (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў «Кнігарня пісьменніка»; Пункт адліку).**

Дваццаць гісторыяў кахання рэальных людзей... Дваццаць спробаў даведацца, што ж такое яно, каханне па-беларуску. Унікальнасць зборніка ў тым, што вы патрапляеце не толькі ў мастацкі свет, але і нібыта ў рэаліці-шоу. Вы пачуеце шчырыя споведзі і вядомых асобаў – мастакоў, тэатралаў, музыкаў, і звычайных, на першы погляд, людзей – але любові і жарсцям паміж імі маглі б пазайздросціць нават галівудскія зоркі. Кожная гісторыя мае свой каларыт. Дзеянні адбываюцца ў майстэрні, на даху, у старым парку, на цёмным летнім полі пад ззяннем веташка. Уражлівы каляровы вітраж, у якім ёсць месца ўсім шкельцам – і вернай любові, і падступнай здрадзе, і трагічнаму расстанню, і выпадковай сустрэчы... У вечнай тэме кахання – адлюстраванне людзей і месцаў нашага часу.




**Камінская Зараслава. Русалкі клічуць: аповесць. – Мінск: Кнігазбор, 2017. – 108 с. – (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў «Кнігарня пісьменніка»; Пункт адліку).**

Вас калі-небудзь клікалі русалкі? А калі б паклікалі, як думаеце, якім бы быў гэты покліч? Замагільны шэпт начнога жаху? Ці голас са старых казак, які абуджае цікавасць і тугу па тым, што мінула? Ці запрашэнне нырнуць у вір, адчуць моц і перарадзіцца русалкай? Гэта кніга не толькі пра Алену Кіш, адзіную, хто прадстаўляе ў свеце наіўнае мастацтва Беларусі, але і пра тое, што адбываецца, калі русалкі клічуць.




**Длатоўская Аліна. Ген зямлі: аповесць. – Мінск: Кнігазбор, 2017. – 132 с. – (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў «Кнігарня пісьменніка»; Пункт адліку).**

У сусвеце, дзе некалькі краінаў аб'ядналіся ў звышдзяржаву, пануе ідэалогія адзінай культуры. Адмысловая арганізацыя «С.О.Н.» займаецца знішчэннем помнікаў самабытных культур, каб змяніць гісторыю. Аднак тыя, хто сутыкаецца са згубленай мовай сваёй краіны, пераходзяць на яе і становяцца носьбітамі звышздольнасцяў, нібы мова здольная змяніць генетычны код. У Мінску такія людзі стварылі падпольнае аб'яднанне «Лабірынт», каб ратаваць спадчыну беларусаў ад сістэмы з дапамогай уласных здольнасцяў. Але ці праўда выклікае забытая мова мутацыі, а не нешта яшчэ? Ці не блукае ў Лабірынце шпіён? І што рабіць, калі блізіцца ноч і «С.О.Н.» ахоплівае розум?

**Барадулін Рыгор. Азбука. Вясёлы вулей. Маст. Лізавета Лянкевіч. – Мінск: Кнігазбор, 2017. – 76 с.: іл. – (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў «Кнігарня пісьменніка»; падсерыя «Каляровы ровар»; вып. 21).**




Серыя «Каляровы ровар» Саюза беларускіх пісьменнікаў і выдавецтва «Кнігазбор» парадавалі маленькіх чытачоў і чытачак шыкоўна аформленай кнігай. Неўміручая класіка – азбука «Вясёлы вулей» Рыгора Барадуліна – зайграла новымі фарбамі дзякуючы мастачцы Лізавеце Лянкевіч. Вачэй не адвесці ад старонак, з рук выпускаць гэтую вясёлкавую кнігу не хочацца! Пераканайцеся самі.




**Брама: літаратурна-мастацкі альманах. Магілёў. №5, 2017. – Мінск: Кнігазбор, 2017. – 240 с.**

Пяты нумар літаратурнага альманаха Магілёўскага аддзялення Саюза беларускіх пісьменнікаў «Брама» знаёміць з паэзіяй, прозай, перакладамі, літаратуразнаўчымі артыкуламі мясцовых аўтараў. Раздзел «Спадчына, успаміны, дакументы» ўтрымлівае ўспаміны Тамары Аўсяннікавай «Сустрэчы, размовы, аўтографы...» пра Ніла Гілевіча, успаміны Уладзіміра Ліўшыца «Тое, што помніцца», прысвечаныя 60-годдзю з дня нараджэння Алеся Пісьмянкова. Аддзел «Крытыка, літаратуразнаўства» склалі артыкулы Яраслава Клімуця пра творчасць Алеся Яскевіча і Тамары Аўсяннікавай «Тактаметрычная сістэма Квяткоўскага чакае свайго часу», а таксама рэцэнзія Сяргея Украінкі на манаграфію Яраслава Клімуця «Шляхі пазнання: нарысы гісторыі беларускай літаратуры другой паловы ХХ ст.».




**Новы замак: літаратурны альманах. Гродна. MMXVI. № 6. Укл. Я. Трацяк. – Мінск: Кнігазбор, 2018. – 242 с.**

У шостым выпуску «Новага замка» надрукаваны вершы, проза, гумар, пераклады, літаратуразнаўства, успаміны і эпісталярный літаратараў гарадзеншчыны. У раздзеле «Успаміны» Мікола Кананович дзеліцца ўспамінамі з дзяцінства пра Вялікдзень і калгасную маёўку. Аляксей Пяткевіч згадвае другую сусветную вайну ў артыкуле «Хлапчукі ваенных гадоў».




**Шапран Сяргей. Беларускі гістарычны анекдот. – Мінск: «Лімарыус», 2018. – 384 с.**

Новая кніга Сяргея Шапрана, журналіста і даследчыка беларускай літаратуры, біёграфа Васіля Быкава, Рыгора Барадуліна, Генадзя Бураўкіна і Уладзіміра Някляева, – першае выданне ў жанры гістарычнага анекдота, дзе сабраны часам дакладныя, часам міфалагізаваныя камічныя і драматычныя гісторыі з жыцця вядомых беларускіх літаратараў, а таксама дзеячаў культуры і палітыкі, сярод якіх С. Алексіевіч, У. Арлоў, Р. Барадулін, Г. Бураўкін, В. Быкаў, З. Вайцюшкевіч, Я. Глебаў, У. Караткевіч, Якуб Колас, Янка Купала, У. Мулявін, У. Някляеў, М. Стральцоў, М. Чарняўскі, С. Шушкевіч і многія іншыя.

# ■ МАСТАЦКАЯ ЛІТАРАТУРА




**Аксак Валянціна. Завінены рай: кніга паэзіі. – Мінск: Галіяфы, 2017. – 116 с.**

«Завінены рай» – сёмая кніга вершаў вядомай паэткі Валянціны Аксак. У новай кнізе мала словаў і шмат знакаў, строгі стыль і разняволеныя вобразы, бяздонны вір пачуццяў і бяскрайні краявід мараў, старасвецкія нетры мовы і немінучая вусціш бязмоўя.




**Ястраб Фёдар. Таўро: санеты. У 5 т. Т. 4. – Мінск: Галіяфы, 2017. – 160 с. [8] арк. каляр. іл.: іл.**

Фёдар Ястраб (Франц Адамавіч Ястраб (1953–2014) пакінуў пасля сябе багатую творчую спадчыну як вядомы дзеяч культуры, мастак еўрапейскага ўзроўню, мастацтвазнаўца і таленавіты паэт. Унікальнасць яго паэтычнага дару ў тым, што ён праявіўся ў перадапошні год яго жыцця. Цяжкая хвароба адкрыла яшчэ адну старонку яго таленту – вершаскладанне. Як ён сам гаварыў: «Мне пайшлі санеты, на працягу 2012–2013 года штодзённа па 2–4 вершы». Напісана амаль тысяча. Гэта пяць тамоў санетаў, адзін з буйнейшых санетарыяў краіны.




**Галавіна Ганна. Летняя азбука. Маст. Т. Анішчанка. – Мінск: Галіяфы, 2018. – 36 с.**

Кніга адрасаваная дзеткам дашкольнага і малодшага школьнага ўзросту. Яна дапамагае вывучыць літары беларускага алфавіта, а таксама назвы садавіны, гародніны і кветак. Невялікія вершы лёгка запамінаюцца. Дарослыя могуць іх чытаць маленькім у дарозе, перад сном, падчас сняданку на свежым паветры і проста калі заўгодна.




**Гапеева Вольга. Дзве Авечкі: вершаваныя гісторыі. Маст. Марта Герашчанка. – Мінск: Галіяфы, 2017. – 68 с.**

«Дзве Авечкі» – паэма для дзяцей і дарослых, якія не перасталі ўспрымаць свет дзіцячымі вачыма. Вольга Гапеева распавядае тры гісторыі, гераінямі якіх з'яўляюцца дзве авечкі. Тут знойдзецца месца для захапляльных падарожжаў і новых сяброў. Выдатныя ілюстрацыі Марты Герашчанкі дапамагаюць стварыць чароўную атмасферу казачнага свету. У якасці дадатку ў кніжку ўключаны ілюстраваны слоўнік.




**Голдман Уільям. Прынцэса-нявеста: Класічны аповед С. Моргенштэрна пра сапраўднае каханне і ўзвышаныя прыгоды. Пераклала з англійскай Настасся Бакшанская. – Мінск: Регистр, 2017. – 288 с.**

Што атрымаецца, калі дочкі пасляховага пісьменніка і сцэнарыста папросяць у бацькі казку (адна – пра прынцэсу другая – пра нявесту)? Так, атрымаецца цудоўны твор, які стане класікай свайго жанру і ўвойдзе ў рознага кшталту спісы найлепшых фэнтэзійных кніг XX стагоддзя. Неверагодныя рамантычныя прыгоды «Прынцэсы-нявесты» будуць цікавыя старэйшым дзецям і падлеткам.




**Рублеўская Людміла. Пантофля Мнемазіны: раман. – Мінск: А.М. Янушкевіч, 2018. – 244 с.**

У сваім новым рамане Людміла Рублеўскаяператасоўвае віртуальную рэальнасць і гістарычныя падзеі і ставіць герояў перад выбарам: змірыцца, стаць часткай сістэмы альбо ўпарта абараняць выспу ўнутранай свабоды. Маладая дызайнерка Вірынея праштрафілася перад начальствам і адпраўлена працаваць у маленькую транспартную газетку. На станцыі метро яна выпадкова заўважае ўласнага мужа, які нібыта загінуў сем гадоў таму. Але дэтэктыўная інтрыга – толькі фон, на якім даследуецца цэлая эпоха. Рэпрэсіі 1930-х гадоў, ганебная «справа ўрачоў», карная медыцына, спецбальніца, схаваная ў пушчы, якая робіцца прытулкам для «ворагаў народа»... І немагчымая гісторыя кахання, якая адбываецца ў сталінскіх засценках, у хрушчоўскую «адлігу» і нават у XXI стагоддзі.




**Калідаса. Воблачны вястун. Пер. з санскрыту Ігара Кулікова. – Мінск: Зміцер Колас, 2017. – 92 с.**

Калідаса ўважаецца за найвялікшага санскрыцкага паэта. Яго лірычная паэма «Воблачны вястун» ёсць шэдэўрам не толькі індыйскай, але і сусветнай літаратуры. Беларускае выданне ўлучае паэтычны пераклад, а таксама ўвагі да яго, якія дапамогуць чытачу лепей ацаніць Калідасаў геній. Адрасуецца ўсім, хто цікавіцца краязнаўствам і гісторыяй роднага краю.




**Жадан Сяргій. Вершы. Пер. з украінскай Андрэя Хадановіча. – Мінск: Выдавец Зміцер Колас, 2018. – 124 с. (Паэты планеты).**

Сяргій Жадан (нар. 1974) – украінскі паэт, празаік, перакладчык, калумніст, рок-музыкант, грамадскі дзеяч. Адзін з найбольш знакамітых літаратараў сучаснай Украіны. На беларускую мову перакладзены яго раманы «Дэпеш мод», «Anarchy In The Ukr», «Варашылаўград», а таксама том паэзіі «Украінскія авіяліініі».




**Дыкінсан Эмілі. Выбраная лірыка. Пер. з англійскай. – Мінск: Выдавец Зміцер Колас, 2016. – 88 с. (Паэты планеты).**

Эмілі Дыкінсан (1830–1886) – паўночнаамерыканская паэтка, у творчасці якой плён яе ўласных назіранняў за побытавымі рэаліямі штодзённага жыцця робіцца аб'ектам метафізічнага пошуку і рэфлексіі.




**Тышкевіч Канстацін. Вілія і яе берагі. Уклад., прадм. пер. пол. тэкстаў, камент. Уладзіміра Васілевіча. – Мінск: Беларуская навука, 2018. – 636 с.: [8] л. іл. – (Беларускі кнігазбор: БК. Серыя П. Гісторыка-літаратурныя помнікі).**

Кніга знакамітага беларускага вучонага, графа з Лагойска Канстанціна Тышкевіча (1806-1868) «Вілія і яе берагі» – выдатны помнік нашай культуры. Гэта – жывы аповед пра наладжанае на парусным судне падарожжа па рацэ Віліі. Своеасаблівы працяг кнігі – даследаванні аўтара старажытных замкаў, курганоў, гарадзішчаў Беларусі, што зацікавяць не толькі гісторыкаў, але і шырокія чытацкія колы.




**Лякін Уладзімір. Ліцвіны ў гвардыі Напалеона. Прадм. У. Бржэскага; пер. з рас. А. Анісім. – Мінск: Тэхналогія, 2017. – 335 с.: іл.**

Кніга знаёміць чытачоў з малавядомай старонкай айчыннай гісторыі. Яна апавядае пра ўдзел нашых продкаў у 1807–1815 гадах у элітных фармаваннях французскай арміі – гвардыі Напалеона. Яны апынуліся ў адным шыхце пад Імператарскімі арламі з адной высакароднай мэтай: вярнуць незалежнасць нашай Радзіме. Іх бліскучыя перамогі пад Самасьерай, Эслінгам, Ваграмам ды ў іншых бітвах цалкам апраўдваюць словы Напалеона: «Вы вартыя маёй Старой гвардыі! Вы – найлепшая кавалерыя!» Рухаючыся следам за аўтарам, чытачы трапяць не толькі на палі бітваў у Іспаніі, Расіі, Германіі, Францыі, але і на велічныя парады, пазнаёмяцца са штодзённым жыццём і падрыхтоўкай кавалерыстаў, іх зброяй, дачыненнямі з вядомымі французскімі камандзірамі і баявымі сябрамі. У дадатку змешчаны кароткія біяграфічныя звесткі пра больш за тысячу нашых суайчыннікаў-гвардзейцаў. Шмат хто з дапытлівых чытачоў пазнае сярод іх сваіх прадзедаў. Кніга прызначана для ўсіх, хто цікавіцца айчыннай гісторыяй і сваім радаводам.




**Інеўска Эльжбета. Калоны Славы ў гонар Канстытуцыі 3 Траўня: Каталог на польскай, беларускай і рускай мовах. – Мінск: Галіяфы, 2017. – 54 с.: іл.**

Калоны Славы ў гонар Канстытуцыі 3 траўня – гэта ўнікальныя аб'екты польска-беларускай культурнай спадчыны XVIII стагоддзя. У каталогу расказваецца гісторыя стварэння 16 «Калон 3 Траўня», якія знаходзяцца на тэрыторыі сённяшняй Беларусі. Пасольства Рэспублікі Польшча ў Рэспубліцы Беларусь спадзяецца, што дадзеная інфармацыя дапаможа ў пошуку іншых калон і паспрыяе рэстаўрацыі тых, якія на сённяшні дзень маюць у гэтым патрэбу.

**Статкевіч-Чабаганаў Анатоль. Я – сын Ваш: Корсакі гербаў «Корсак» і «Ліс». Рэуты герба «Газдава». Г餤елталты, Тышкевічы, Гарабурды і Гарнастаі з роду Каленікавічаў Мішкавічаў. – Мінск: Рэдакцыя часопіса «Роднае слова», 2017. – 576 с.: іл. – (Летапіс беларускай шляхты).**




Выданні серыі «Летапіс беларускай шляхты» прысвечаны гісторыі старажытных беларускіх родаў. Кнігі змяшчаюць кароткае апісанне і радаводныя росписы, а таксама цікавыя факты і займальныя сюжэты з жыцця прадстаўнікоў беларускай шляхты, копіі гістарычных дакументаў і фотаздымкаў. У радаводных росписах першы лік абазначае парадкавы нумар прадстаўніка роду, другі – ад якога продка ён паходзіць. Такая форма дае магчымасць легка ўбачыць і прасачыць роднасныя сувязі і ступень роднасці. Чырвоным колерам вылучаны імёны прамых продкаў і нашчадкаў аўтара. Кніга з'яўляецца сёмай у серыі «Летапіс беларускай шляхты» і змяшчае апісанне старажытных родаў Корсакаў, Рэутаў, Геталтаў, Тышкевічаў, Гарабурдаў і Гарнастаяў з роду Каленікавічаў Мішкавічаў, гісторыя якіх цесна пераплецена з гісторыяй Полацкага краю.

Кніга выдаецца на рускай і беларускай мовах і будзе цікавая не толькі навукоўцам-гісторыкам, архівістам, краязнаўцам, але і шырокаму колу чытачоў.




**Копер Славамір. Жанчыны Другой Рэчы Паспалітай. – Мінск: Галіяфы, 2017. – 388 с.**

«Жанчына – таксама чалавек». Цікавы і крыху іранічны погляд на жаночыя праблемы. Гісторыя змагання жанчын за раўнапраўе і цэлая галерэя яскравых, неадназначных постацей. Славамір Копер (21.11.1963 г. н.) – польскі пісьменнік, аўтар гістарычных кніг, публіцыст, тэле- і радыёэксперт у галіне гісторыі. За папулярызацыю гісторыі ўзнагароджаны ганаровым знакам «За заслугі перад польскай культурай» і Срэбным Крыжам Заслугі.




**Гужалоўскі Аляксандр. Чырвоны аловак: Нарысы па гісторыі цэнзуры ў БССР. У 2 кн. Кн. 2. 1943–1991 гг. – Мінск: А.М. Янушкевіч, 2018. – 320 с.: іл.**

На падставе вывучэння вялікага аб'ёму архіўных дакументаў, перыёдыкі, сучасных даследаванняў упершыню паказана гісторыя функцыянавання і знікнення сістэмы партыйна-дзяржаўнага інфармацыйнага кантролю ў БССР у 1943–1991 гг. Чытачы зазірнуць у «святая святых» савецкай ідэалогіі – Галоўліт і Рэперткам БССР, якія шмат гадоў ажыццяўлялі інфармацыйную і культурную палітыку камуністычнай партыі, даведаюцца пра цэнзурныя лёсы літаратурных і мастацкіх твораў, сродкаў масавай інфармацыі і часткі культурнай спадчыны Беларусі. Кніга адрасавана гісторыкам, філолагам, журналістам, культуролагам, студэнтам гуманітарных спецыяльнасцяў, а таксама шырокаму колу чытачоў, якія імкнуцца глыбей зразумець гісторыю Беларусі.




**Вашкевіч Андрэй. Вінцэнт Гадлеўскі: насуперак часу. – Мінск: А.М. Янушкевіч, 2018. – 188 с., [12] л іл.: (Серыя «Беларускія жыццяпісы». Вып. 1).**

Імя Вінцэнта Гадлеўскага (1888–1942) добра вядома ўсім, хто цікавіцца беларускім нацыянальна-вызваленчым рухам першай паловы XX ст. Гэты чалавек быў не толькі адным з лідараў Беларускай хрысціянскай дэмакратыі – самай уплывовай незалежніцкай арганізацыі Заходняй Беларусі міжваеннай эпохі, але і на ўласным прыкладзе паказваў жыхарам вёсак і мястэчак іх права ўжываць у касцёле родную мову.

Біяграфія Вінцэнта Гадлеўскага створана на падставе дэтальнага даследавання разнастайных дакументаў, успамінаў і матэрыялаў перыядычнага друку. Аўтар арганічна ўпісаў дзейнасць святара ў шырокі кантэкст драматычнай эпохі, калі беларусы ўпершыню заявілі пра свае права на нацыянальную дзяржаўнасць. Яго жыццёвы шлях падрабязна апісаны ад нараджэння ў вёсцы Шурычы, што пад Ваўкавыскам, да трагічнай смерці ў Трасцянецкім лесе пад Мінскам.




**Голубеў Валянцін. Гісторыя Беларусі ад заканчэння Другой сусветнай вайны да перыяду будаўніцтва незалежнай дзяржавы (1945–2017 гг.). – Мінск: Выдавец Зміцер Колас, 2017. – 236 с. [іл.].**

У кнізе выкладзены асноўныя моманты палітычнай, сацыяльна-эканамічнай і культурнай гісторыі Беларусі ад заканчэння Другой сусветнай вайны да 2017 г. Звернута ўвага на развіццё дзяржава-будаўнічых працэсаў у Беларусі, на значэнне набыцця краінай рэальнага суверэнітэту. Называюцца асноўныя даты, раскрываюцца найважнейшыя тэрміны і паняцці. Выданне можа быць карысным школьнікам, студэнтам, выкладчыкам, краязнаўцам – усім, хто цікавіцца гісторыяй Беларусі.




**Чарнобыльская аварыя і грамадства: 30 год пасля катастрофы. Пад рэд. А. Ф. Смаленчука. – Мінск: Зміцер Колас, 2017. – 384 с.**

У матэрыялах зборніка прадстаўлены аналіз сацыяльных наступстваў аварыі на ЧАЭС. Даследчыкі з Беларусі, ЗША, Японіі, Германіі, Украіны, Канады, Польшчы і Фінляндыі прадстаўляюць вынікі даследаванняў стану здароўя перасяленцаў і «ліквідатараў» у Беларусі і Украіне, распавядаюць пра змаганне навукоўцаў і медыкаў з сусветным «ядзерным лобі», аналізуюць змены традыцыйнай культуры ў перасяленцаў з Чарнобыльскай зоны ды інш. Таксама публікуюцца даследаванні вуснай гісторыі Чарнобыльскай катастрофы ва Украіне і Беларусі, якія дазваляюць зразумець чалавечае вымярэнне гэтай трагедыі. Кніга адрасаваная гісторыкам, сацыёлагам, медыкам і ўсім, каго цікавяць праблемы наступстваў Чарнобыльскай аварыі і радыяцыйнага забруджвання ўвогуле.




**Ермалёнак Вітаўт. Паляўнічыя за таямніцамі: аб дзейнасці археолага-краязнаўчага гуртка «Арганаўты мінулага». – Минск: Капитал Принт, 2017. – 318 с.**

У кнізе аўтар распавядае пра шматгадовую пошукавую дзейнасць археолага-краязнаўчага гуртка «Арганаўты мінулага» па даследаванні гістарычнай спадчыны Мёршчыны. Кніга змяшчае змястоўны матэрыял па арганізацыі даследчай дзейнасці гурткоўцаў і іх кіраўніка Вітаўта Ермалёнка, апавядае пра іх набыткі і дасягненні па археалогіі, этнаграфіі, нумізматыцы краю. Выданне будзе карысна настаўнікам-краязнаўцам, арганізатарам турысцка-краязнаўчай працы з вучнямі, аматарам вывучэння мінулага.




**Ермалёнак Вітаўт. Чароўных вандровак пярсцёнкі: краязнаўчыя маршруты па Мёрскаму раёну. – Минск: Капитал Принт, 2017. – 204 с.**

У кнізе знайшлі адлюстраванне распрацаваныя аўтарам тры краязнаўчыя маршруты па Мёрскім раёне. На аснове сабранага дакументальнага матэрыялу падрабязна апісваюцца археалагічныя, гістарычныя, архітэктурныя помнікі краю, змешчаны біяграфіі знакамітых землякоў. Выданне адрасавана настаўнікам гісторыі, краязнаўцам, аматарам гісторыі Мёршчыны, усім, хто любіць падарожнічаць па роднай Бацькаўшчыне.




**Фургаліньска Яанна. Польская кухня. Адчуй смак традыцый: Зірні. Згатуй. З'еш. Пер. з пол. Вольгі Гуд. – Мінск: А.М. Янушкевіч, 2018. – 144 с.: іл.**

Гэтая кніга змяшчае найбольш папулярныя рэцэпты польскай традыцыйнай кухні. Яны пададзены арыгінальным спосабам – у выглядзе малюнкаў і іх тлумачэнняў. Дзякуючы гэтаму атрымаўся нагляднs дапаможнік, па якім кожны зможа з лёгкасцю згатаваць смачныя стравы і тым самым дакрануцца да глыбокіх і блізкіх кулінарных традыцыяў Польшчы.

Кнігі можна замовіць ці набыць па наступных адрасах:

**«Акадэмічная кніга»,** г. Мінск, пр-т Незалежнасці, 72; e-mail: akademknigaminsk@mail.ru, тэл.: +375 17 292 00 52, 292 46 52, 292 50 43, **«Кнігарня пісьменніка»** (вул. Казлова, 2), **«Веды»** (вул. К. Маркса, 36), **«Светач»** (пр-т Пераможцаў, 11), **«Цэнтральны кніжны»** (пр-т Незалежнасці, 19), **«Кніжная Шафа»** (пр-т Дзяржынскага, 9), **«Кнігі & кніжачкі»** (пр-т Незалежнасці, 14), **Кніжная выстава-кірмаш «Мир книг»** (пр-т Пераможцаў, 84).

А таксама ў інтэрнэт-крамах: knihi.by, prastora.by, imbryk.by, januskevic.by, kniharnia.by і halijafy.by.

■ ІМПРЭЗЫ

# Дзве прэміі на сёмым Стральцоўскім фэсце

16 лютага ў галерэі TUT.BY стартаваў VII Міжнародны паэтычны фестываль «Вершы на асфальце» памяці Міхася Стральцова, які сёлета прымае ўдзельнікаў з Беларусі, Літвы, Нарвегіі, Татарстана (РФ), Польшчы, Украіны. У межах фэсту ўпершыню ўручылі прэмію імя Міхася Стральцова, а таксама ўганаравалі лаўрэатаў прэміі «Залаты апостраф» часопіса «Дзеяслоў».

Галоўны рэдактар выдавецтва «Мастацкая літаратура» Віктар Шніп прадставіў нядаўна выдадзеную кнігу Міхася Стральцова «Я зноўку тут».

Адметнасць гэтага фестывалю – Прэмія імя Міхася Стральцова, заснаваная ГА «Саюз беларускіх пісьменнікаў» па ініцыятыве Алены Стральцовай. Прэмія адметная сваёй універсальнасцю і будзе ўручацца за творы розных жанраў, не толькі за паэзію. Акрамя звычайных у такіх выпадках дыплома і кветак – выхад кнігі лаўрэата да дня адкрыцця фэсту, прычым так, каб імя пераможцы заховўвалася ў таямніцы непасрэдна да цырымоніі ўганаравання. Інтрыга ўдалася: віленскі беларус, паэт, празаік і перакладчык Алег Мінкін пабачыў сваю ўласную кнігу, выдадзеную адмыслова да прэміі Стральцова, упершыню толькі на вечарыне. Зборнік быў падрыхтаваны да друку без удзелу аўтара. Укладальнікам стаў Міхась Скобла, рэдактары – Барыс Пятровіч і Алесь Пашкевіч, дызайн вокладкі Уладзімір Вішнеўскі.

Журы прэміі Стральцова, куды ўвайшлі Алена Стральцова, Уладзімір Някляеў, Барыс Пятровіч, Міхась Скобла і Аксана Спрынчан, уганаравалі Алега Мінкіна «за метафарычнае багацце паэтычнай мовы, за тэматычную і метрычную разнастайнасць радка, за захаванне чысціні стылю і класічных традыцый літаратуры».

Другая не менш важная падзея ў межах Стральцоўскага фэсту – узнагароджанне лаўрэатаў прэміі «Залаты апостраф» часопіса «Дзеяслоў». Пераможцамі сталі: у прозе Андрэй Федарэнка, у паэзіі Анатоль Брусевіч, у дэбюце Марына Булатоўская. Спецыяльную прэмію за ўнёсак у развіццё сучаснай беларускай літаратуры атрымаў Алесь Разанаў.

**Віка Трэнас, для lit-bel.org**

■ АЎТОГРАФ

# «Пісаць цягнула з дзяцінства...»

*(Пачатак на стар. 1)*

**– Нядаўна выйшла Вашая новая кніга «Планктон», у якой сабраныя творы розных жанраў: прыгодніцкія і містычна-фантастычныя аповесці, псіхалагічныя апавяданні і вандроўна-падарожныя нарысы. А якому жанру Вы аддаяце перавагу і чаму?**

– Кніга «Планктон», што выйшла летась, – вынік працы не аднаго года. І тое, што туды ўвайшлі творы розных жанраў, не выпадкова. Мне цяжка аддаць перавагу нечаму аднаму. На фантастыцы я вырас, першы твор быў напісаны ў жанры фэнтэзі. Але нярэдка душа прагне іншага: непасрэднасці, шчырасці, апісальнасці. Хочацца раскрыць характары галоўных герояў, расказаць пра іх, знайсці для чытача нешта цікавае, а, магчыма, і нечаму навучыць. Люблю вёску, яе няспешнае ціхае жыццё, якое пахне дзяцінствам і любоўю да роднай зямлі. Люблю памарыць, павандраваць са сваімі героямі, пабываць з імі ў самых нечаканых месцах. Бывае, падкрадаецца сум і адзінота, яны спрабуюць загнаць цябе ў цёмны куток, туды, дзе туга адольвае і ўкрывае сэрца. Менавіта таму і пішуцца самыя розныя творы – сюжэтаў прыходзіць многа, хочацца ўсе іх рэалізаваць. А яшчэ не адпускае дзяцінства. У тыя гады я складаў казкі для сваіх братоў і сястры на цёплай бацькоўскай печы. Таму цяпер рэалізаваліся мары дзяцінства. І сёння ў стале чакаюць свайго часу дзве цудоўныя казкі, але на іх выданне няма сродкаў. Характар у мяне бурапенны і імклівы, як вясновая паводка, і, у той жа час, я адкрыты, шчыры і даверлівы. Хутчэй за ўсё, перавага будзе на баку мастацкай прозы ў стылі Васіля Уладзіміравіча Быкава. Гэта тое, да чаго я імкнуся. Але на гэты час я не магу сказаць, у якім жанры будзе наступны твор, бо ўсе жанры мне цікавыя. Мне таксама цікавая і блізкая аўтарская песня. Я пішу свае песні і выконваю іх пад гітару, а вучыўся гітары ў трыццаць восем. Пішу яшчэ і байкі.

**– Вы напісалі таксама дзве кнігі для дзяцей: «Янка, Шмурдзік, Бухматка ды іншыя» і «Энерджы і дзеці з 5 “А”». Якой, на Ваш погляд, павінна быць дзіцячая кніжка?**

– Дзіцячы свет – гэта асаблівы свет. Мы вырастаем і забываем амаль усё тое, што хацелі ў дзяцінстве, пра што марылі, пра што думалі. Застаюцца толькі аскепкі ад той непасрэднасці і чысціні. На мой погляд, дзіцячая літаратура не павінна быць кан’юнктурнай, падладжвацца пад рэйтынгі і грошы. Яна павінна быць прасякнута любоўю, шчырасцю, дабрынёй, быць зразумелай, але і не спрошчанай. Безумоўна, значную ролю адыгрываюць малюнкі – не трэба забываць пра сілу дзіцячага ўяўлення. Мне здаецца, самая істотная рэч для дзіцячай кнігі адна: пісьменнік павінен любіць тое, пра што піша. Дзеці адчуваюць гэта на падсвядомым узроўні. А для беларускамоўнай дзіцячай літаратуры самае галоўнае – гэта падтрымка дзяржавы, інакш у хуткім часе можа стацца так, што яе не будзе каму чытаць.

**– Каго Вы лічыце сваімі настаўнікамі ў літаратуры, творчасць якіх пісьменнікаў найбольш паўплывала на станаўленне Вас як творцы?**

– Я лічу, што беларуская літаратура багатая на таленавітых людзей. І гэта прытым, што самых лепшых знішчылі ў 1937 годзе. Але прабілася новае, не менш таленавітае, пакаленне. Я зачытваўся творамі Васіля Быкава, Уладзіміра Караткевіча, Віктара Казько, Вячаслава Адамчыка, Івана Мележа, люблю творы Андрэя Федарэнкі, Віктара Карамазава, Анатоля Кудраўца, Генрыха Далідовіча, паэзію Янкі Купалы і Максіма Багдановіча. Я ўжо пісаў, што да ўсведамлення сваёй беларускасці прыйшоў даволі позна. І па гэтай прычыне нямала ўпусціў, не прачытаў многае з таго, што павінен быў прачытаць у свой час. На роднай мове пачаў пісаць толькі ў саракагадовым узросце. У правінцыйным Навагрудку не было творчых людзей з вопытам, не было таго, хто б параіў і навучыў. Нейкімі парадамі мне дапамаглі Віктар Казько, Андрэй Федарэнка, Яўген Лецка – з імі я перапісваўся, меў сякія-такія стасункі. Але самым лепшым настаўнікам былі кнігі Васіля Быкава і Уладзіміра Караткевіча. Найбольш блізкай для мяне сталася проза Васіля Уладзіміравіча. Ягоная творчасць – гэта ўзор для сапраўднага пісьменніка. Настолькі шчымліва і праўдзіва ён выпісвае людскія вобразы, характары і падзеі, настолькі тонка і трапна перадае драматызм сітуацыі, малюе псіхалагічныя партрэты, што чытач проста не можа застацца абыякавым. Ва Уладзіміра Караткевіча можна навучыцца многаму, найперш, самай шчырай любові да Беларусі, гонару за яе гісторыю, уменню захапіць чытача сваім пісьмом і сюжэтам. Я стараюся быць самім сабой і рухацца наперад, а астатняе пакажа час.

## ■ «ДЗЕЯСЛОЎ» РАІЦЬ




**Лявон Юрэвіч. Літштудыі. – Мінск: Кнігазбор, 2017. – 208 с.**

Новая кніга вядомага крытыка і архівіста Лявона Юрэвіча складаецца з літаратуразнаўчых нарысаў, прысвечаных розным жанрам, аўтарам і творам айчыннага пісьменства. Сярод аб'ектаў цікавасці даследчыка беларускай эміграцыі з Нью-Ёрка – творчасць Змітрака Бядулі, Юркі Віцьбіча, Язэпа Дылы, Уладзіміра Караткевіча, Рыгора Крушыны, Вацлава Ластоўскага, Янкі Юхнаўца і іншых.




**Свэн Нурдквіст. Фіндус з'язджае. – Мінск: Кнігазбор, 2017. – (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў «Кнігарня пісьменніка». Падсерыя «Каляровы ровар»; вып. 17). – 36 с.**

Аматараў смешных гісторый шведскага пісьменніка і мастака Свэна Нурдквіста пра дзядулю Пэтсана і кацяня Фіндуса чакае прыемны падарунак! Серыя «Каляровы ровар» Бібліятэкі Саюза беларускіх пісьменнікаў папоўнілася чарговай кнігай, перакладзенай на нашую мову, як і папярэднія, Надзеяй Кандрусевіч. У гэтай казцы распавядаецца пра тое, як стары Пэтсан вырашыў трошкі правучыць гарэзлівага і непаслухмянага коціка Фіндуса, які будзіў дзядулю а чацвёртай раніцы, і перасяліў яго ў маленькі асобны драўляны дамок а-ля вясковая прыбіральня. Што з гэтага выхаваўчага працэсу атрымалася і ці можа дзядуля жыць адзін і не сумаваць без кацяняці-непаседы, кожны ахвотны зможа дазнацца са старонак шыкоўна ілюстраванай кнігі.




**Гуніла Бэргстрэм. Суперкніга пра Біла з Болаю (Біл разумны, а Бола вясёлая) / мастак Гуніла Бэргстрэм; пер. Андрэя Хадановіча, падрадкоўны пер. са швед. Алесі Башармавай і Надзі Кандрусевіч. – Мінск: Кнігазбор, 2017. – (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў «Кнігарня пісьменніка». Падсерыя «Каляровы ровар»; вып. 18). – 68 с.**

Саюз беларускіх пісьменнікаў выпусціў унікальную дзіцячую кнігу «Суперкніга пра Біла з Болаю» пра маленькую дзяўчынку з абмежаванымі магчымасцямі. Гэта першая кніга па-беларуску, дзе пранікнёна і рэалістычна распавядаецца пра сям'ю, у якой расце незвычайнае дзіця.

У хлопчыка Біла з'яўляецца маленькая сястрычка Бола – нагода для радасці, весялосці і гонару. Але час ідзе, і паступова сям'я пачынае разумець, пгго з Болай адбываецца нешта не тое, яна зусім не размаўляе. Кніга ў вершаванай форме распавядае пра жыццё маленькай дзяўчынкі, якая ніколі не будзе як усе. Пра звязаныя з гэтым радасць і гора, надзею і роспач. Пра тое, наколькі мы гатовыя жыць побач з тымі, хто не падобны да нас. Але найперш гэтая кніга пра любоў і здольнасць прымаць.

## ■ КАНТАКТЫ

Пададзеныя ў бюлетэні кнігі
Вы можаце замовіць непасрэдна ў выдаўцоў
па наступных кантактах:

Кніжныя серыі:
**«Бібліятэчка «Дзеяслова»,**
**«Кнігарня пісьменніка»,**
**«Бібліятэка «Бацькаўшчыны»,**
e-mail: knihanosza@gmail.com,
тэл.: +375 17 200 70 27

**«Гарадзенская бібліятэка»,**
e-mail: dzmuchavec@gmail.com,
тэл.: +375 29 133 87 17

**ІП «Логвінаў»,**
e-mail: lohvinaupress@gmail.com,
тэл.: +375 29 667 47 57

**ПУП «Кнігазбор»,**
e-mail: bkniha@tut.by,
тэл.: +375 29 772 19 14

**ІП «Уладзімір Сіўчыкаў»,**
e-mail: siuchykau@gmail.com,
тэл.: +375 44 561 05 28

**СТАА «Медысонт»,**
e-mail: medisont@gmail.com,
тэл.: +375 29 623 74 10

**Выдавецтва «Галіяфы»,**
e-mail: vish@bk.ru,
тэл.: +375 29 678 68 06

**Выдавецтва «Лімарыус»,**
e-mail: limarius@yandex.ru,
тэл.: +375 29 679 33 36

**ІП «Зміцер Колас»,**
e-mail: zkolas@gmail.com,
тэл.: +375 29 623 35 65



ІНФАРМАЦЫЙНЫ БЮЛЕТЭНЬ
КНІГА НОША
№ 48
люты, 2018
ЗАСНАВАЛЬНІКІ: ГА"САЮЗ БЕЛАРУСКІХ ПІСЬМЕННІКАЎ", МГА"ЗБС"БАЦЬКАЎШЧЫНА"

**Інфармацыйны бюлетэнь МГА «ЗБС «Бацькаўшчына» і ГА «Саюз беларускіх пісьменнікаў».**
Распаўсюджваецца на правах унутранай дакументацыі.
Наклад 299 асобнікаў. № 48 27.03.2018.
Адказны за нумар – Алесь Сачанка.
Адрас рэдакцыі: г. Мінск, вул. Кузьмы Чорнага, 31-906, 220012, тэл./факс: (+375 17) 200 70 27.
E-mail: knihanosza@gmail.com